№ 2 люты 2012 г.

*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*
***Ул. Дубоўка***

# Шыпшына

**Бюлетэнь Пастаўскай раённай арганізацыі**
**Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны**

***…Гавары мне мовай родных вёсак,***
***сонечнай, пакрыўджанай зямлі…***

*Ларыса Геніюш*

## У НУМАРЫ:



















# СВЯТКАВАННЕ ДНЯ РОДНАЙ МОВЫ Ў ПАСТАВАХ

У Паставах пры ўдзеле сяброў раённай арганізацыі ТБМ прайшоў шэраг мерапрыемстваў да Дня роднай мовы. У нядзелю, 19 лютага, ў мясцовым касцёле Святога Антонія Падуанскага адбылася ўрачыстая імша, на якой прысутнічала шмат жыхароў горада і раёна.



Пасля яе ў памяшканні дзіцячай раённай бібліятэкі адбылася агульнанацыянальная дыктоўка па тэксту Янкі Купалы. Удзел у ёй прынялі як сябры ТБМ, так і некаторыя патрыятычныя жыхары горада, якія прачыталі абвестку пра мерапрыемства ў раённай газеце "Пастаўскі край".

У той жа дзень адбылася прэзентацыя кніг Отана Гедэмана "Даўнія пушчы і лясы", "Друя", "Глыбокае", "Валерыянаўскія школы айцоў піяраў Лужэцкіх", якія пераклаў і выдаў вядомы пастаўскі краязнаўца і перакладчык Міхась Гіль.





# БЕЛАРУСЫ І АМЕРЫКАНЦЫ: СПРОБА ПАРАЎНАННЯ

Кожны народ мае свае адметныя рысы. Цікава прасачыць падабенствы і адрозненні паміж беларусамі і амерыканцамі.

Амерыканская культура заснавана на індывідуалізме. У ангельскай мове слова «я» заўсёды пішацца з вялікай літары.

Беларуская культура арыентавана на калектывізм. Беларусы заўсёды падкрэсліваюць, што «я» з'яўляецца апошняй літарай у алфавіце. Такім чынам, іншыя людзі лічацца больш важнымі.

Амерыканцы вельмі ганарацца сваёй краінай і сваёй мовай. Кожны дзень у школах пачынаецца з абяцання вернасці краіне. Адной з прычын, чаму ангельская мова стала міжнароднай з'яўляецца тое, што амерыканцы не захацелі вывучаць эсперанта. І ўвесь свет да іх прыстасоўваецца. "Паважай сябе і астатнія будуць цябе паважаць".

У амерыканскай культуры незалежнасць у прыняцці рашэнняў рэкамендуецца. Барак Абама сказаў: «Амерыканцы з'яўляюцца нацыяй аматараў рызыкі». Людзі разумеюць, што тая ці іншая падзея ў іх жыцці з'яўляецца вынікам іх уласных дзеянняў (за выключэннем форс-мажорных абставін). Амерыканцы вераць у поспех, вядуць барацьбу за поспех і вінавацяць сябе за свае няўдачы.

Беларусы ігнаруюць нацыянальную культуру. Толькі нешматлікія людзі (у асноўным - дэмакратычная інтэлігенцыя) размаўляюць па-беларуску. Здаецца, што беларусаў не 10 мільенаў, а максімум - тысяча. Большасць слаба ўяўляе мінулае свайго народу. Замежнікі кажуць, што ў іх складваецца ўражанне, што ўсім беларусам толькі б паесці, паспаць і паглядзець тэлевізар. Беларусам не хапае жадання жыць лепш і рашучасці нешта змяніць. Вядома, гэта цяжка. Вядома, трэба патраціць шмат сіл і энергіі. Але калі мы самі не захочам, ніхто нам не дапаможа.

Беларусы любяць прыказку «Лепш мець сініцу ў руках, чым жураўля ў небе». Яны заўсёды апраўдваюць сябе. У іх вінаватыя такія знешнія фактары, як удача, лёс, урад і, нават, надвор'е. Гэта знайшло адлюстраванне ў беларускай мове, у такіх выказваннях, як «Ня лес», «Усё, што ні робіцца, - да лепшага», «Час – лепшы лекар», «Ну што ж, бывае!».

Усеагульная амерыканская добразычлівасць, якая выяўляецца ва усмешцы, зрабілася стандартам для ўсяго свету. Амерыканцы ніколі не скардзяцца на жыццё. У Амерыцы вельмі ветлівыя прадаўцы.

Беларусы часта засмучоныя і раздражнёныя. Гэта ўжо стала стэрыатыпам. Могуць нахаміць ў краме. У адказ на рытарычнае пытанне "Як справы?" любяць распавесці пра нейкія праблемы.




Амерыканцы ставіць мэты, умеюць планаваць сваю будучыню і ведаюць, што яны будуць рабіць праз 20 ці 50 гадоў, і ў

іх няма ніякіх сумневаў, што усе планы будуць рэалізаваныя. Іх мэты вельмі амбіцыйныя. Жаданне стаць прэзідэнтам успрымаецца нармальна. Амерыканцы схільны ды ўсяго новага, да развіцця індывідуальнасці.

Настальгія - вельмі беларускае пачуцце. Шмат хто ідэалізуе мінулае, якое б яно ні было. Калі гучаць настальгічныя песні пра маладосць, каханне, або паход і вогнішча, усе падпяваюць амаль са слязьмі на вачах. Беларусы гавораць «не кажы «гоп» пакуль не пераскокнуў». Часам яны не вераць у свае сілы, бо ў іх менш свабоды сацыяльнай, фізічнай і эканамічнай. Беларусы схільны да ўсялякасці, абыякавасці да сябе, нядбайнасці да продкаў і дзяцей.

У Амерыцы больш свабоды. У любым зяленым месцы можна зладзіць пікнік або пагуляць з мячыкам. Графіці на сценах лічацца праяўленнем мастацтва, а не вар'яцтва. Інтэр'еры амерыканскіх школ аздоблены дзіцячымі малюнкамі рознага ўзроўню, а не толькі "лепшымі» на нечы погляд.

У той жа час амерыканцы любяць закон і парадак.

У Беларусі - культ парадку і чысціні, але часам здаецца, што ўсё зроблена, каб



ўразіць, а не каб зручна жыць або паказаць чыю-небудзь індывідуальнасць.

Англійская мова мае даволі фіксаваны парадак слоў. Трэба казаць «вялікі чорны кот», а не «чорны вялікі кот», «Я кахаю цябе» , а не «Я цябе кахаю».

Нягледзячы на тое, што ў беларускай мове парадак слоў у сказе вельмі вольны, людзі стрыманыя ў праяўленні пачуццяў. Беларусы спакойныя, працавітыя і дакладныя, таму менавіта ў Беларусі шмат гадзіннікавых заводаў і заводаў вылічальнай тэхнікі.

У Амерыцы ўлада імкнецца працаваць на народ, а паліцыя абараняе правы людзей, бо яны разумеюць, што людзі аплочваюць іх заробак.

У Беларусі некаторыя кіраўнікі вельмі ганарлівыя, ім чамусьці здаецца, што ўсе павінны хадзіць на дыбачках перада імі. Людзі ў Беларусі часта баяцца міліцыі.

Здольнасць да самастойнай працы высока шануецца ў ЗША. Пра гэта сведчаць амерыканскія выразы «Бог дапамагае тым, хто дапамагае сабе сам», «Калі двое мужчын едуць на кані, аднаму трэба сесці ззаду», «Шмат кухараў псуюць булён». Амерыканцы хочуць быць першымі. Конкурс з'яўляецца вельмі важнай часткай жыцця. Права на недатыкальнасць прыватнага жыцця з'яўляецца адным з ключавых аспектаў амерыканскай культуры. У сям'і ў кожнага свой вугал, ў дзяцей свае цацкі. Прыстаўка «сама-self» часта мае станоўчае значэнне ў англійскай мове.

У Беларусі людзі аддаюць перавагу працы ў супрацоўніцтве. У іх ёсць вялікае пачуццё агульнасці. Усім вядома, прыказкі «Адзін у полі не воін», «Адзін за ўсіх і ўсе за аднаго». Беларусы прывыклі да калектыўнай уласнасці і працуюць для агульнага дабра. Поспех калектыва лічыцца поспехам кожнага работніка. А вось павага да асабістай прасторы - тое, чаму беларусам трэба вучыцца. У нашай мове няма эквівалентаў для такіх словазлучэнняў, як «Self-made person». Слова «самаўпэўненасць» ў беларускай мове мае негатыўную канатацыю. У Беларусі прыстаўку "сама" хутчэй асацыююць са словамі, якія называюць грахі.

Амерыканцы будуюць вертыкальную кар'еру, яны мараць стаць топ-мэнэджарамі, а іх новая праца павінна лепш аплачвацца, чым папярэдняя.

Большасць беларусаў задаволена гарызантальнай кар'ерай. Напрыклад, многія настаўнікі не хочуць быць дырэктарамі.

Беларусы шануюць духоўнае развіцце больш чым матэрыяльныя або кар'ерныя поспехі.

Вельмі прэстыжна мець вышэйшую адукацыю ў Беларусі і лёгка скончыць універсітэт, калі плаціш за навучанне. Беларуская сістэма вышэйшай адукацыі складаецца з універсітэтаў, акадэмій і інстытутаў. Яна ўключае ў сябе 42 дзяржаўных і 15 недзяржаўных вышэйшых навучальных установаў (VNU). Усе вышэйшыя навучальныя установы рускамоўныя. Дарэчы, гэта адна з прычын змяншэння колькасці беларускіх класаў.

Амерыканцы не так імкнуцца атрымаць вышэйшую адукацыю. У Амерыцы адносна лёгка паступіць ва ўніверсітэт, але цяжка яго скончыць.

Амерыканскія студэнты сядзяць па асобку. Такія сталы можна ўбачыць у нашых школах, але ў большасці школ двое сядзяць за адным сталом.

Тыповыя літаратурныя і кінаперсанажы таксама дэманструюць значныя адрозненні ў каштоўнасцях беларускага народа і амерыканцаў.

Большасць беларускіх герояў маюць таварышаў: «брыгада», «братва». На самой справе гэта расійскія «героі», бо беларусы не ведаюць сваіх паэтаў, навукоўцаў, мастакоў. А калі вы ведаеце, тады паспрабуйце адказаць на пытанне: «Каго вядомы пісьменнік Васіль Быкаў назваў Беларусам нумар 1 у свеце?». Дарэчы, гэты чалавек некаторы час жыў і працаваў у Паставах, а праславіўся ён ў амерыканскай касманаўтыцы. Шостага красавіка яму споўніцца 102 гады.



*Барыс Кіт*

Калі нашы машыны ламаюцца, мы звяртаемся да сяброў і сваякоў за дапамогай. Гэта нармальна для нашых студэнтаў, каб спісваць у сваіх сяброў. Беларусы разлічваюць на іншага чалавека. Калі яны нешта робяць, то думаюць, што людзі скажуць.

У амерыканскай культуры героі спадзяюцца толькі на сябе: Супермэн, Бэтмен ... . Калі аўтамабілі ламаюцца, амерыканцы вызываюць адмысловую службу, а не сяброў. Амерыканцы паводзяць сябе вольна, незалежна ад думкі іншага чалавека, калі тое, што яны робяць законна.

Беларусы больш гасцінныя, яны занепакоеныя, што іншыя людзі думаюць пра ежу, якую яны рыхтуюць. Яны чамусьці хочуць пераканаць гасцей, што трэба многа есці. Асаблівую павагу ў Беларусі аказваюць замежнікам. Калі амерыканцы запрашаць іншых людзей у свае дамы, госці часта прыносяць з сабой ежу.

Для амерыканцаў камунікацыя - працэс, пры якім яны абменьваюцца інфармацыяй. Яны не праводзяць гадзіны за чаем. У Амерыцы кажуць: «Дзеянні кажуць гучней, чым словы». У той жа час яны вельмі адкрытыя, да ўсіх звяртаюцца аднолькава "YOU", не падзяляючы на "ВЫ" і "ТЫ". У Амерыцы адносіны настаўніка і вучня выглядаеюць як сяброўства. Беларускі народ любіць цытаваць фразу «раскоша чалавечых зносін». Беларусы выкарыстоўваюць кожную магчымасць для размоў і могуць гаварыць на працягу многіх гадзін.

У Амерыцы мільянер можа выдатна сябе адчуваць у старой вопратцы. Беларусы судзяць па вонкавым выглядзе, і таму ім падабаюцца гламурныя рэчы. Жанчыны праводзяць шмат часу перад люстэркам.

У канцы хачу засяродзіць увагу на тым, што мы павінны памятаць, што ўзровень калектывізму і індывідуалізму моцна вар'іруецца ад чалавека да чалавека і залежыць ад сацыяльнага асяроддзя і індывідуальных асаблівасцяў.

*Наталля Пракаповіч*

# КРАЯЗНАЎЦЫ ПАСТАЎШЧЫНЫ Ў ДАВЕДНІКУ М. ПІВАВАРА «КРАЯЗНАЎЦЫ ВІЦЕБШЧЫНЫ»



*Мікалай Півавар*

Нядаўна ў выдавецтве "Кнігазбор" пабачыў свет цікавы біябібліяграфічны даведнік "Краязнаўцы Віцебшчыны другой паловы XX – пачатку XXI стагоддзя. Гэта важкае выданне на сваіх 372 старонках утрымлівае звесткі пра 573 асобы – людзей, якія збіраюць матэрыялы пра гісторыю, геаграфію, культуру і іншыя адметнасці сваёй мясцовасці. Разам з іншымі раёнамі вобласці ў даведніку годна прадстаўлена і Пастаўшчына. На яго старонках падаюцца біяграфіі і




інфармацыя пра публікацыі дваццаці сямі краязнаўцаў, лёсы якіх звязаны з нашым краем. Непасрэдна Паставы прадстаўляюць настаўнікі, музейныя работнікі, пісьменнікі і журналісты Л. Валетка, М. Гіль, А. Касцень, Р. Ластоўская, У. Магільніцкі, І. Пракаповіч, Л. Сіманёнак, А. Фурс, У. Шык, З. Шыман. З Лынтупшчыны – І. Быхавец, А. Гарбуль, У. Іванковіч, М. Нячаева. Іншыя мясцовасці таксама маюць сваіх прадстаўнікоў: М. Арэх (Гута), Ю. Гарбінскі, А. Нафрановіч і І. Драўніцкі (Камаі), І. Зямчонак і А. Майсяёнак (Варапаева), Г. Жаброўскі і С. Якавіцкая (Міхнічы), Ф. Хоміч (Дунілавічы), І. Якян (Мягуны). Прыемна, што ў даведнік уключаны і мае былыя вучні, актыўныя ўдзельнікі навуковага краязнаўчага таварыства "Ювента" Я. Громаў, І. Заяц і А. Вансовіч.

Аўтарам кнігі з'яўляецца вядомы віцебскі краязнаўца, кандыдат гістарычных навук, выкладчык Віцебскага дзяржаўнага універсітэта Мікалай Півавар. Можна толькі меркаваць, колькі часу давялося даследчыку для таго, каб прагледзець падшыўкі ўсіх раённых газет Віцебўчыны, пазнаёміцца з рэгіянальнымі краязнаўчымі выданнямі, разаслаць, сабраць і апрацаваць анкеты краязнаўцаў.

У канцы тыдня М. Півавар наведае Пастаўшчыну, каб дапоўніць і ўдакладніць звесткі пра людзей, якія рупяцца пра захаванне роднай спадчыны. У нядзелю, 4 сакавіка ў памяшканні дзіцячай раённай бібліятэкі (плошча Леніна) у 13.30 адбудзецца сустрэча з аўтарам даведніка "Краязнаўцы Віцебшчыны" Мікалаем Піваварам, на якую запрашаюцца ўсе жадаючыя.

*Ігар Пракаповіч*

# ПАЭЗІЯ - ГОСЦЯ НЯБЕСНАЯ

## АЛЕСЬ ГАРБУЛЬ



Нарадзіўся 17. 10. 1960 г. у г. Роўна на Украіне. Закончыў Лынтупскую сярэднюю школу Пастаўскага раёна, школу тэхнікаў падводнага плавання імя С. М. Кірава ў Ленінградзе з чырвоным дыпломам. Служыў мічманам на Ціхаакіянскім флоце. Пасля вайсковай службы вярнуўся на Пастаўшчыну, працаваў на прадпрыемствах раёна, у Маскве, у Чэхіі.

Аўтар кніг "Скарбы сівых валуноў"(2002), "Навэлы і апавяданні"(2009). Піша апавяданні, вершы; збірае і апрацоўвае фальклор. Творы друкаваліся ў мясцовых і рэспубліканскіх выданнях.

Жыве ў г. п. Лынтупы Пастаўскага раёна.

### САНЕТ

***Калюча. Зімна. Дождж імжыць,***
***Якраз, пад мой настрой пагода.***
***І у мяне жа ёсць нагода***
***Ратунку ў Неба папрасіць,***
***Бо сэрца плача і баліць***
***За страты нашага народа.***
***Тут спачувае мне прырода,***
***І цяжар думак не спыніць.***

***Як страчу нешта дарагое,***
***Ды свет абрыдлы той парою,***
***Ратунку ў Неба я прашу.***
***А у адказ я чую Бога!***
***- Пакуль не страціў ты душу,***
***яшчэ не страціў ты нічога!***

### САНЕТ

***Які нясцерпны боль душы, -***
***Крыло тваё ізноў падбіта.***
***І ля "разбітага карыта"***
***Ты марыш вырвацца з глушы***
***Балотаў да Нябёс цішы.***
***Ды Неба для цябе закрыта.***
***Бо конам лёс увесь спавіты,***
***Грашы ў жыцці ты, не грашы...***

***Наканаванне не змяніць? –***
***Ды, Бог не кінуў вас любіць! –***
***Увесь шкілет будовы свету***
***Наскрозь адноснасцю працяты, -***
***Змяні жа рух сваёй планеты,***
***Бо кон для лёсу – толькі шаты!***

*Легенды і паданні ўяўляюць адзін з цікавейшых пластоў нашай гісторыі і культуры, які да сённяшняга часу застаецца слаба вывучаным і апрацаваным з прычыны таго, што амаль няма грунтоўных збораў з запісамі арыгінальных фальклорных крыніц па паўночна-заходняй Беларусі. Збіраючы матэрыялы па геаграфіі, гісторыі і культуры Пастаўшчыны на працягу ўжо амаль трыццаці год, запісваю цікавыя апавяданні, успаміны, мясцовыя гісторыі, якіх назапасілася ўжо больш сотні. Яны склалі рукапіс кнігі "Легенды, паданні і цікавыя гісторыі нашага краю", якая рыхтуецца зараз да выдання. Але калі пабачыць свет – невядома, бо патрэбны фундатары, якія б прафінансавалі выданне. Можа хто з чытачоў "Шыпшыны" далучыцца да справы выдання кнігі?.. «Баранчык з Чортавай печы»– адна з мясцовых гісторый, якая ўвойдзе ў кнігу.*

*Ігар Пракаповіч*

## БАРАНЧЫК З ЧОРТАВАЙ ПЕЧЫ

Даўней з Лугоў на Лучай можна было хутка дабрацца напрасткі праз лес. Тады тут была нядрэнная дарога, і шмат хто з Сяргеевічаў, Зарэжжа, Краснянаў ездзіў па ёй да касцёлу ці на фэст. Але зараз яна закінута, зарасла і карыстаюца ёй хіба паляўнічыя і грыбнікі. А чаму? Можа час змяніўся, а мо і чорт падстроіў. Жыве тут адзін недалёка ад Лугоў ва ўрочышчы Гараватка. Ёсць там вялікі-вялікі камень, "Чортава печ" называецца. Дык, вось, нячысцік, пэўна, там і жыве. Бачылі здалёк, як ля таго каменя, часам, агонь скача і дым ідзе. Асабліва часта па вечарах пасля дажджу. Кажуць, чорт печ цепліць, скарбы свае сушыць.

Ён можа скідвацца ў розных звяроў і птушак, а то і карчом у лесе стацца. Бачылі неаднойчы, як на той камень крумкач садзіўся ды каля яго баранчык белы пасвіўся.

А з тым баранчыкам дык вось якая гісторыя ўчынілася. Ехаў неяк асеннім вечарам наш мужык з лучайскага кірмашу. Выгадна жыта прадаў, купіў сёе-тое, чарачку ў карчме выпіў, таму і настрой меў добры. І ўжо, пад'язджаючы да Гараваткі, бачыць – ля дарогі баранчык стаіць. Невялічкі такі, беленькі, толькі мокры ўвесь. Пагладзеў той сумна на чалавека і жаласліва зацягнуў: "Бэ-э-э, бэ-э-э..."

Шкода стала мужыку таго баранчыка. "Вазьму, - думае, - з сабою, а то ж з'ядуць яго тут ваўкі". Злез чалавек з возу, узяў



баранчыка на рукі, ну і ехаць далей. А коні хрыпяць, азіраюцца, ледзь-ледзь воз з месца скранулі. А мужык пасадзіў баранчыка на калені, прыкрыў крысом сваёй світкі, гладзіць яго і прыгаворвае: ""Бяша, бяша..." Той ад цяпла чалавечага абсох і стаў расці як на дражджах. А коні – у пене, хрыпяць, напінаюцца, ледзь воз цягнуць. Неўзабаве і вёска паказалася, а на ўездзе – крыж-абярог. Як убачыў той баран крыж, то затросся ўвесь і скочыў на дарогу. Мужык памкнуўся было за ім, а той яму чалавечым голасам, як бы перадражніваючы: "Бяша..., бяша... Дурань ты!" Пасля гэтага падскочыў той баран уверх, бухнуўся на зямлю і прапаў. Ну а мужык той ледзь дадому дабраўся, саслабеў зусім. Потым хварэў доўга, бо частку сілы чорт з сабою забраў.




*Шыпшына*

*Выданне Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны*

Адказны за нумар: Наталля Пракаповіч

Адрас: 211875, горад Паставы, вул. Паркавая, 52. Тэл.: 02155-4-44-75

Вёрстка: Ігар Пракаповіч

*Рэдакцыя можа не падзяляць думкі аўтараў друкаваных матэрыялаў*

*Надрукавана на абсталяванні сяброў, распаўсюджваецца дарма*

*Наклад 100 асобнікаў*